ІНФАРМАЦЫЙНАЯ КУЛЬТУРНА-ГРАМАДСКАЯ ГАЗЕТА ГАРАДОЧЧЫНЫ



# ГАСЦІНЕЦ

*Еўропу будуем разам тут!*

N 3(37), КРАСАВІК 2005 ГОДА

Кожны спажывец мае права звяртацца у суд па абароне сваіх правоў. Прыкладны змест іскавай заявы змешчаны на

➢СТАР. 2

"Мне так яго шкада. Не было такога Папы ніколі і ня будзе".

➢ СТАР. 3

АКАДЭМІКАЎ БУДУЦЬ АБІРАЦЬ ПА-РАНЕЙШАМУ ТАЕМНЫМ ГАЛАСАВАНЬНЕМ.

➢ СТАР. 5

**Чиновники райисполкомов в ряде областей Беларуси в очередной раз выступили против какой-никакой рыночной экономики и честной конкуренции.**

➢ СТАР. 5

## ПАЗІТЫЎНЫЯ ДАСЯГНЕННІ?

Напрыканцы мінулага году, пасля правядзення рэферэндума, беларускі правадыр заявіў, што апазіцыя павінна прызнаць пазітыўныя справы ўлады за апошнія гады. З таго часу прайшло амаль паўгода, толькі ніхто з апазіцыі не прызнаў пазітыўныя дасягненні улады.

Між тым магла бы атрымацца добрая гаворка пра тое, што можа лічыцца станоўчым у дзеяннях уладаў або ці ёсць наогул пазітыўныя дасягненні. Бо немагчыма трымацца значны час пры уладзе, не адлюстроўваючы памкненні большасці. Праўда пры гэтым прыходзіць на памяць выслоў'е, што магчыма кароткі час дурыць усіх, доўгі час частку грамадства, але дурыць увесь час і усіх ніколі не атрымаецца.

Дык вось ацэньваючы дасягненні уладаў яе апаненты звычайна у кожнай справе знаходзяць негатыўныя моманты. І гэта, магчыма так, бо яны падыходзяць да ацэнкі спраў з пазіцый будучыні, у якой няма месца ізаляванай Беларусі. Беларускія ж улады не імкнуцца інтэграваць краіну у сусветную супольнасць і бачаць у апанентах сваіх ворагаў, што канешне шкодзіць нашай дзяржаве.

Практыка ажыццяўлення правоў грамадзян не вытрымлівае крытыкі міжнародных экспертаў. Беларусь не выконвае узятые на сябе міжнародныя абавязкі па захаванню правоў і свабод грамадзян. І гэта датычыцца ў першую чаргу выбарчых правоў грамадзян, бо выбары не праводзяцца ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі дэмакратыі і адкрытасці. Ігнаруецца прынцып доступа апазіцыі да складу камісій. Пры гэтым кіраўніцтва выбаркама не жадае дапусціць у склад камісій апанентаў пад шыльдай слабага прафесіяналізму новых сябраў. Але грамадства добра ведае, што галоўны крытэрый "прафесіяналізму" членаў камісій — гатоўнасць выканаць загад зверху. Між тым зразумела, што апаненты уладаў не будуць выконваць у камісіях загады зверху, будуць патрабаваць выканання выбарчага заканадаўства - і ў гэтым іх галоўная "прафесіянальная" непрыдатнасць. Так што у выбарчым працэсе пазітыўных дасягненняў няма. А гэта становішча ставіць пытанне аб легітымнасці існуючай улады, ставіць пытанне аб законнасці утрымання улады на Беларусі, аб законнасці права вядомага грамадзяніна балатавацца на трэцці тэрмін.

Але праблемы выканання выбарчага заканадаўства не знаходзяцца ў эпіцэтры грамадскай увагі. Блізка да эпіцэнтра знаходзіцца працэс дабраўпарадкавання гарадоў і райцэнтраў. Пра вёску пакуль казаць не будзем, бо там гэта праблема зведзена да магчымасці сабраць смецце і пабудаваць новы плот. Дзяржаўныя ж СМІ зараз падаюць справу парадку на зямлі, як вялікае дасягненне апошніх гадоў. Безумоўна, мясцовыя улады надалі пэўны парадак цэнтральнай часткі райцэнтраў, значна пашырылі іх кветкавае асяроддзе.

Толькі пры гэтым застаюцца без адказу такія пытанні. Ці варта выкладваць пліткай тратуары, калі не засыпаны ямы бліз шматкватэрных дамоў? Ці варта ставіць шматкіламетровыя заборы, калі каля шматпавярховых дамоў няма простых скамеек, плытоў і дзіцячых пляцовак? Колькі каштуе гэта дабраўпарадкаванне бюджэту? Хто атрымлівае прыбытак ад заказаў на дабраўпарадкаванне? Чаму начное асвятленне сталіцы адбіваецца цемрай у райцэнтрах і вёсках? Пытанняў шмат, але на іх адказу у правінцыі не знайсці. Як і не знайсці магчымасці весці грамадскае абмеркаванне праблем развіцця краіны з удзелам прадстаўнікоў альтэрнатыўных поглядаў. На жаль, у краіне прапагандуецца толькі адна думка і усе афіцыйныя СМІ закрыты для выказвання альтэрнатыўных поглядаў.

Такога становішча няма ні у воднай краіне свету, якая устойліва развіваецца. І гэта з'яўляецца крыніцай сумнення ў пазітыўнасці беларускага шляху развіцця.

**Леанід Гаравы.**

● ***Наша жыццё***

### ПАДНЯЦЦА З КАЛЕН

Імкнецца калектыў Гарадоцкага рамзавода, які знаходзіцца ў крызісным стане апошнія гады. Першай апорай у гэтай справе бачыцца выканне дзяржзаказу па праграме "Лён" для вырабу 25 культіватараў. Прадпрыемствы аграпрамысловага комплексу гатовы заплаціць за гэты заказ 350 млн. рублёў. Іншае пытанне, як будзе справа ў сапраўднасці. Але гэта ўсё яшчэ менш даўгоў рамзавода па падатках, якія складаюць 384 млн. руб.. І гэта самы вялікі тормаз для мадэрнізацыі калісьці прыбытковага прадпрыемства Гарадка.

### ВАЙСКОВАЯ ЧАСТКА АДЗНАЧЫЛА СВАЁ 60-ГОДДЗЕ

І доўгія гады яе дзейнасць была амаль невядома жыхарам Гарадка. Толькі ў 1995 годзе у незалежнай прэсе з'явілася інфармацыя аб маштабах захавання авіцыйных снарадаў у часці пад Гарадком. Аб'ём ракетнага ўзбраення і баеприпасаў на складах дасягаў у свой час 5260 вагонаў. Пасля публікацый у прэсе і увагі грамадскасці пачаліся працы па ўтылізацыі узбраенняў. І за апошнія чатыры гады было атрымана і рэалізавана метала амаль 240 тон і тратылу 78 тон.

### УЗЯЦЬ РЭКОРДНЫ РУБЕЖ!

Менавіта такую задачу паставілі на апошняй нарадзе кіраўнікоў аграпрадпрыемстваў перад сельскімі працаўнікамі Гарадоччыны вышэйстаячыя ўлады. Упершыню будуць штурмаваць мяжу ў 32 ц/га для зернавых культур механізатары нашага раёну. Як пры малой контурнасці палёў і нізкай кадастравай бальнасці зямлі дасягнуць гэтай лічбы застаецца пакуль таямніцай.

**Падрыхтаваў Аляксей Шчупак.**

● Наша жыццё

# ГАЛОЎНАЯ ЎВАГА — «СОВЕТСКОЙ БЕЛОРУССИИ»!

Менавіта на такія думкі наводзіць аналіз вынікаў падпісной кампаніі на другі квартал 2005 г. Пачаўшаяся два гады назад, масіраваная ідэалагічная апрацоўка насельніцтва прайшла свой вядомы яшчэ з камуністычных часоў этап — падтрымка дзяржаўнай прэсы праз пашырэнне ведамаснай падпіскі. Калгасы і саўгасы, дамы культуры і школы, прадпрыемствы і арганізацыі — усяго 281 арганізацыя — вымушана падпісацца на "салідную газету". Гэта амаль столькі ж, колькі ўся іншая ведамасная падпіска на "Звязду", ""Народнае слова", "Гарадоцкі веснік" і іншыя газеты разам узятыя. Толькі пытанне "Ці салідна так рабіць?" мусіць не турбуе сучасных ідэолагаў.

# ЛІКВІДАВАЦЬ ХАТНІ ГАНДАЛЬ СПІРТНЫМ

Гэтага патрабуюць сотні і тысячы нашых грамадзян, у сем'і якіх прыйшло гора ад п'янства. Але ці якае зло не можа існаваць доўга без "даху" ад зацікаўленых асоб пры ўладзе. Гэта па-першае, а па-другое, п'яніцы заўжды стаяць па-за палітыкай, што таксама спадабаецца ўладам. Між тым апошнім часам тэмпы барацьбы з хатнім гандлем пачалі узрастаць. Калі ў 2003 годзе было выяўлена 110 такіх фактаў, то толькі за першы квартал гэтага году — 50. Але было б добра, каб такія хатнія кропкі больш сваю дзейнасць не аднаўлялі. Тады сапраўды будуць бачны вынікі барацьбы з п'янствам.

*Гарадоччына*

# ЧАРГОВАЯ ВЫСТАВА

Адкрылася у Гарадоцкім краязнаўчым музеі. Працягваючы традыцыю прадстаўлення гарадчанам творчасці розных віцебскіх мастакоў, кіраўніцтва музея арганізавала выставу пейзажыста Мікалая Гугніна. Аматары мастацтва маюць магчымасці пазнаёміцца з акварэльнымі пейзажамі беларускай глыбінкі, адчуць хараство мясцовай прыроды.

# ЗМЯНШЭННЕ ВЫТВОРЧАГА ТРАЎМАТЫЗМУ

Адбылося за апошні год на прадпрыемствах раёна. Пры агульных зніжэннях колькасці няшчасных выпадкаў, тым не меншг ахвяры парушэнняў тэхнікі бяспекі маюцца. Ад парушэнняў тэхнікі бяспекі загінула два чалавека і абодва ў стане алкагольнага ап'янення. Пры лячэнні ахвяр вытворчага траўматызму было выкарыстана 293 дня на бальнічныя лісткі. Станоўчай стала тэндэнцыя на паляпшэнне умоў працы, на што было выдаткавана 342 млн. рублёў., што больш на 40% у параўнанні з 2003г.

# ВАЛ СУДОВЫХ СПРАЎ

Каціцца па краіне, якая лічыцца краінай спагадлівых, талерантных грамадзян. На кожны тыдзень першага квартала 2005 году Гарадоцкаму суду прыходзілася разглядаць у сярэднім 5 крымінальных спраў і 16 грамадзянскіх. Але і пры гэтым справаводстве ўсё яшчэ застаюцца на 1 красавіка не вырашанымі 56 грамадзянскіх спраў і 28 крымінальных. Так штосьці не так ідзе ў нашым "дацкім" каралеўстве.

● Наша права

**Ад рэдакцыі.** *Для жыхароў шматкватэрных дамоў райцэнтраў адной з непрыемных з'яў лета з'яўляецца адсутнасць гарачай вады. Між тым рашэннем урада вызначана абавязковасць штодзённага прадстаўлення гарачай вады для спажыўцоў і летам, за выключэннем рамонту кацельнай па графіку, што з'яўляецца адным з сацыяльных стандартаў. Так і робіцца для жыхароў сталіцы і абласных цэнтраў. Адсутнасць гарачай вады летам — ёсць парушэнне правоў спажыўцоў. Кожны спажывец мае права звяртацца у суд па абароне сваіх правоў. Прыкладны змест іскавай заявы змешчаны ніжэй. Мы гатовы аказаць дапамогу у адстойванні правоў спажыўцоў. Звяртайцеся па тэлефоне рэдакцыі.*

## ИСКОВОЕ ЗАЯВЛЕНИЕ О ЗАЩИТЕ ПРАВ ПОТРЕБИТЕЛЕЙ

Я проживаю по адресу: ____________________.

В моем доме в период с_________по_________ не было горячей воды. Никакого уведомления о том, что горячая вода будет отключена, когда она будет отключена, в связи с чем ее отключили, и когда она снова будет включена, мне предоставлено не было.

Полагаю, что в этой ситуации имело место нарушение моих прав как потребителя.

Договор на обслуживание горячей водой заключен с УП «Водоканал», что подтверждается выставляемыми мне квитанциями. Следовательно, именно УП «Водоканал» является ответчиком по данному делу.

Считаю, что ответчик нарушил мои следующие права как потребителя:

1) право на надлежащее качество услуги;

2) право на информацию об услугах.

Тем, что мне отключили горячую воду, и особенно тем, что мне не сообщили об этом, мне нанесены нравственные и физические страдания. Я переживал(а) по поводу отключения, не мог принять ванную, помыться, ждал(а), когда наконец включат воду. Из-за этого я испытывал(а) дискомфорт и не знал(а), как долго это все будет еще продолжаться.

Размер причиненных мне нравственных и физических страданий оцениваю в ______________ рублей.

Статьей 43 Закона РБ «О защите прав потребителя» установлено, что иск о защите прав потребителя может предъявляться в суд по месту жительства истца, и потребители по таким искам освобождаются от уплаты государственной пошлины:

**В соответствии со ст.ст. 15, 17, 43 Закона РБ «О защите прав потребителя»,**

**ПРОШУ:**

**1. Взыскать с ответчика за нарушение моих прав потребителя в качестве компенсации за нанесенные мне нравственные и физические страдания (моральный вред) ______________ рублей.**

Приложение: копия искового заявления для ответчика.

25 апреля 2005 года.

подпись

3 ГАСЦІНЕЦ
№3, красавік 2005 года

# КОЛА ДЗЁН

Чарговы веснавы месяц краіны атрымаўся з вялікімі перападамі тэмператур. Спачатку хутка настала пацяпленне, а потым пасля адключэння ацяплення пачаліся начныя маразы. Але для правінцыі яны ужо азначалі астылыя кватэры, якія улады моцнай і квітнеючай Беларусі не жадаюць ацяпляць. І гэта рэальная мадэль нашага жыцця – без фанфараў дзяржаўных СМІ.

Рэальнай падзеяй, якая выклікала яднанне хрысціянскага свету стала смерць выдатнага дзеяча каталіцызму XX стагоддзя Яна Паўла ІІ. Беларусы здолелі убачыць, што значыць духоўны лідэр католікаў і як яны па яму смуткавалі! Без прымусовай апрацоўкі, па жаданню свайго сэрца! Ці можа чакаць такі лёс першага беларускага прэзідэнта? Недарэчнае пытанне.

У грамадскім жа жыцці краіны пэўнай падзеяй стала правядзенне абласных канферэнцый па абранню адзінага кандыдата на выбарах 2006 года. У гэтым працэсе, як у люстэрку адбіліся ўсе праблемы бацьбы апазіцыі. Па-першае, адсутнасць харызматычнага лідэра; па-другое, адарванасць ад жыцця правінцыі, а па-трэцяе, слабая адданасць дэмакратычнай працэдуры. Вынікі гомельскай канферэнцыі выклікалі моцнае незадавальненне у АГП. Не такія разлічвалі атрымаць вынікі. Але ж лідэр гомельскіх лібералаў, лідэр грамадзянскай супольнасці вобласці Віктар Карніенка узначальвае штаб Мілінкевіча і працуе з ім у адной камандзе не адзін год. Больш сціпла трэба сябе паводзіць, спадары лібералы.

У красавіку сацыял-дэмакраты здолелі правесці аб'яднаўчы з'езд. Зноў са скандалам, калі зарэгістраваная партыя БСДП (НГ) праплаціўшы тры памяшканні ні ў водным не здолела правесці з'езд, а правяла на прыступках Сеніцкага ДК за кальцавой сталічнай дарогай. Вось і адсутнасць дыктатуры з тыраніяй!

Красавік, як звычайна, стаў месяцам інтэграцыйных сустрэч кіраўнікоў Расіі і Беларусі. І па завядзенцы афіцыйныя СМІ паднялі прапагандыскую хвалю аб поспехаў у будаўніцтве саюзнай дзяржавы, але ўсе гэтыя поспехі — папяровыя.

Між тым дзяржаўная бюракратычная машына знішчае адну выспу вольнадумства за другой. Канстытуцыйны пераварот 1996 года даў уладам неабмежаваныя магчымасці рабіць антычалавечыя захады па абмежаванню правоў чалавека. Усе гэта робіцца пад выглядам квазізаконнасці, як і ў выпадку з РГА "НІСЭПД", што займаўся сацыялагічнымі даследаваннямі і прадстаўляў грамадскасці непажаданыя для уладаў вынікі апытання грамадскай думкі. Так атрымалася і з сакавіцкім апытаннем. А ў красавіку вядучы сацыялагічны Цэнтр Беларусі зачынілі. Апошнія сацыялагічныя вынікі, яшчэ дзеючага НІСЭПД прадстаўляем вашай увазе.

Пра гэтыя і іншыя навіны чытайце ў нашым красавіцкім аглядзе.

***Леанід Гаравы.***

# Ян Павал Другі, яго жыцьцё і спадчына

***Аляксей Дзікавіцкі, Варшава.*** *Ян Павал Другі – Караль Юзэф Вайтыла – нарадзіўся 18 траўня 1920 году ў мястэчку Вадавіцэ каля Кракава. Сям'я Вайтылы, а ў яго быў яшчэ старэйшы брат Эдмунд, жыла даволі сьціпла – з заробку бацькі-чыноўніка. Каталіцкую царкву кардынал Вайтыла ўзначаліў у 1978 і стаў першым Папам цягам 455 гадоў, які не паходзіць з Італіі. Пра жыцьцё Папы, ягонае значэньне для Польшчы і ўсяго сьвету расказвае наш варшаўскі карэспандэнт.*

Караль Вайтыла быў вельмі здольным хлопцам – ён добра вучыўся, рэгулярна граў у футбол і езьдзіў на лыжах, а таксама браў актыўны ўдзел у працы школьнага тэатру. Яшчэ ў дзяцінстве будучы Папа перажыў сьмерць самых блізкіх людзей – памерла ягоная маці і брат, а ў 1941 годзе памер і ягоны бацька.

У гэтым жа годзе Караль Вайтыла, які ўжо быў тады студэнтам факультэта польскай філялёгіі Ягелонскага ўнівэрсытэту, што ў Кракаве, кінуў вучобу і пайшоў працаваць на фабрыку. Вайтыла быў сябрам падпольнай арганізацыі "Унія", якая, сярод іншага. хавала габрэяў ад фашыстаў, а таксама, разам зь сябрамі, сур'- ёзна займаўся тэатральнымі пастаноўкамі.

Аднак у 1943 будучы Папа нечакана кінуў тэатар і вырашыў вывучаць тэалёгію ў некалькіх падпольных навучальных установах. Пасьля сканчэньня вайны Вайтыла працягнуў вучобу ў Рыме і стаў сьвятаром.

У 1963 годзе Караль Вайтыла быў прызначаны архібіскупам Кракаўскім, а праз 4 гады атрымаў тытул кардынала.

16 кастрычніка 1978 году ў 18:44 вернікі, якія сабраліся на пляцы сьвятога Пятра, пачулі афіцыйнае паведамленьне: "Папа абраны – ім стаў кардынал Караль Вайтыла".

Абраньне Папам грамадзяніна сацыялістычнай краіны мела значны ўплыў на далейшыя падзеі ва Ўсходняй Эўропе і Азіі. Вось што сказаў нашаму радыё былы прэзыдэнт Польшчы Лех Валэнса:

(Валэнса:) "Гэта быў вель-мі цяжкі працэс. Пасьля столькіх паразаў людзі ўжо ня верылі ў канец камунізму. Я цягам 20 гадоў зьбіраў вакол сябе людзей, гатовых да змаганьня, і ведаеце колькі назьбіраў – 10 чалавек былі гатовыя змагацца! Астатнія ня верылі, былі зламаныя, з галавой, задуранай камуністычнай прапагандай. І тут адбылося нешта неправўдападобнае – у 1978 годзе паляк стаў Папам!

Праз год Папа прыехаў у Польшчу – мільёны людзей прыходзілі на сустрэчы зь ім. Тады ва ўсім сьвеце пачалі думаць – што ж гэта робіцца ў гэтай камуністычнай краіне? Гэта дапамагло абудзіць народ – польскі народ абудзіўся, а разам зь ім і іншыя. Народ перастаў баяцца. Бо Сьвяты айцец, сярод іншага, гаварыў: ня бойцеся – зьмяняйце аблічча гэтай зямлі. Праз год пасьля пілігрымкі Папы я змог арганізаваць ужо 10 мільёнаў чалавек, якія былі гатовыя да змаганьня. Без абуджэньня народу Сьвятым Айцом гэтага б не атрымалася".

Вось што сказаў Папа ў Польшчы ў часе першай пілігрымкі:

(Папа:) "З глыбіні гэтага тысячагодзьдзя заклікаю разам з Вамі: няхай Дух Сьвяты сыдзе і адновіць аблічча зямлі.... гэтай зямлі".

(Валэнса:) "Менавіта тыя два дададзеныя Папам на Плошчы перамогі ў Варшаве словы – "гэтай зямлі", ды словы аб тым, што "ня можа быць справядлівай Эўропы без незалежнай Польшчы" і сталі для палякаў сыгналам да пераменаў".

13 траўня 1981 году ў часе аўдыенцыі на пляцы сьвятога Пятра на Яна Паўла другога быў зьдзейсьнены замах – ён быў паранены. Дагэтуль невядома, хто стаяў за гэтым замахам. Паводле адной з вэрсіяў, гэта быў савецкі КГБ.

Вялікі ўнёсак Папа зрабіў і ў справу прымірэньня паміж рэлігіямі, а таксама ў тое, каб наблізіць царкву і ўласна асобу пантыфіка да вернікаў. Для мільёнаў людзей Ян Павал Другі стаў найвялікшым маральным аўтарытэтам у сьвеце.

Ян Павал Другі заўсёды любіў сваё роднае мястэчка Вадавіцэ і Кракаў. Некаторыя землякі Папы памятаюць Караля Вайтылу яшчэ маленькім хлопчыкам, які з зайздрасьцю глядзеў з вуліцы праз шыбы на ўладаль-ніка кандытарскай: вось дзе пашчасьціла, ён жа можа гэта ўсё пакаштаваць!

(Жыхарка Вадавіцэ:) "Мне так яго шкада. Не было такога Папы ніколі і ня будзе".

# БЕЛАРУСЬ, РОССИЯ И США СЫГРАЮТ В ИГРУ БЕЗ ПРОИГРАВШИХ?

***Критические высказывания первых лиц Соединенных Штатов о недемократическом характере политического строя Беларуси в ближайшее время могут утратить декларативные интонации. Складывается впечатление, что в геополитических планах США наша страна перемещается на верхние позиции.***



По информации американских СМИ, в ходе своего визита в Ригу 7-8 мая президент США Джордж Буш планирует встретиться с лидерами белорусской оппозиции, а уже 21 апреля встречу с представителями демократических сил Беларуси в Вильнюсе проведет госсекретарь Соединенных Штатов Кондолиза Райс.

Как считает официальный представитель МИД России Александр Яковенко, «Кондолиза Райс является одним из авторитетных и влиятельных представителей администрации Джорджа Буша. И от ее вклада в немалой степени будет зависеть, как станут развиваться российско-американские отношения в предстоящий период».

От Кондолизы Райс многое будет зависеть и в белорусско-американских отношениях. В частности, характер позиции, которую Соединенные Штаты будут занимать по отношению к нашей стране. Пока признаков возможного потепления контактов не заметно. Так, по дороге в Москву Кондолиза Райс вновь выступила с критическими заявлениями о положении Беларуси и политике ее властей.

«Беларусь отброшена назад из-за природы нынешнего режима, и ее невозможно куда-либо интегрировать. Народ Беларуси заслуживает лучшей доли», — сказала она в беседе с журналистами на борту своего самолета. И добавила, что «Россия больше, чем кто-либо еще, выиграла бы от реформированной, демократической и процветающей Беларуси, благодаря потенциалу для торговых и экономических взаимоотношений, не говоря уже о родственных связях между народами».

Позиция Соединенных Штатов, в принципе, ясна: Россия при определенных обстоятельствах может поддержать экспорт демократии в Беларусь. Есть у США и рычаг давления на Кремль. В следующем году Россия впервые должна провести у себя саммит «большой восьмерки». Но, как пишет «The Washington Post», «американские конгрессмены предложили к рассмотрению законопроект, приостанавливающий членство России в «большой восьмерке» по той причине, что в России, как они говорят, больше нет демократии. Райс не согласилась с этим предложением, она говорит о том, что важно, чтобы Россия не оказалась в изоляции, но при этом Россия должна обратить внимание на проблемы, вызывающие беспокойство Запада».

«Москва должна предпринять все усилия для того, чтобы убедить мир, что она понимает ту ответственность, которую налагает членство в таких организациях, как «большая восьмерка», — сказал Кондолиза Райс. По ее словам, «большая восьмерка» создавалась как «группа демократических государств», которые придерживаются принципов «свободного рынка, свободной торговли, норм права».

«Сильного давления на Россию по белорусскому вопросу ожидать не стоит, — прогнозирует эксперт «Белорусских новостей». — Хотя заявления Кондолизы Райс довольно симптоматичны. И, в общем, она права, заявляя, что соседство с демократизированной Беларусью для России было бы более выгодным. Впрочем, решать это будет сама Россия».

Как считает лидер Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько, высказывания Кондолизы Райс свидетельствуют, что сегодня никто за спиной Беларуси не пытается решить ее судьбу. «Очевидно, что Беларусь не отдана в зону интересов какой-то конкретной страны или группы стран вопреки расхожему мнению, что Беларусь — это лишь фигура большой геополитической игры, которую можно двигать как пешку, — говорит политик. — И США открыто предлагают России обсудить этот вопрос, хотя реакцию Путина прогнозировать трудно: он не любит Лукашенко, но еще больше он не любит «оранжевые революции».

Сегодня в Москве касательно политики Вашингтона на постсоветском пространстве высказалась и Кондолиза Райс, заявившая, что у США нет намерения сократить влияние России в СНГ: «На самом деле мы видим это не как игру, в которой кто-то проигрывает, а кто-то выигрывает, а такую игру, в которой у всех есть возможность победить, когда создаются процветающие, экономически развитые страны на границах России».

Если даже предложенная Кондолизой Райс формула, по которой взаимные интересы США и России в отношении Беларуси смогут избежать конфликта, сработает, еще остаются интересы самой Беларуси, что в данном случае кажется вопросом первостепенным. Внутри нашей страны, как известно, единого мнения давно не наблюдается. Оппозиция безуспешно добивается демократических преобразований, а власть под лозунгом защиты суверенитета и сохранения внутренней стабильности все больше изолирует Беларусь от внешнего мира.

**Александр ЗАЙЦЕВ.**

# ПУЦІН І ЗАХОДНІЯ ЛІДЭРЫ МАЮЦЬ МАГЧЫМАСЬЦЬ ДАМОВІЦЦА 9 ТРАЎНЯ Ў МАСКВЕ АБ АДХІЛЕНЬНІ ЛУКАШЭНКІ АД УЛАДЫ?

***Сяргей Абламейка, Прага*** *Сёньня газэта "Moscow Times" апублікавала артыкул міжнароднага аглядальніка літоўскай газэты "Lietuvos Rytas" Рычарда Крыкаса, у якім выкладаецца плян мірнай зьмены ўлады ў Беларусі з дапамогай Расеі. Больш падрабязна з артыкулам вас пазнаёміць наш карэспандэнт.*

За апошнія 17 месяцаў, – піша Рычард Крыкас, – Уладзімер Пуцін зазнаў шэраг няўдачаў на фронце зьнешняй палітыкі. Гэта падзеі ў Грузіі, Украіне, Малдове і Кіргізстане. Як вынік, у Пуціна ўсё меней падставаў для таго, каб лічыць СНД жыцьцяздольнай структурай, якая можа дапамагчы Расеі дамінаваць на прасторы былога СССР.

Цяперашнюю пазыцыю Крамля Рычард Крыкас называе палітычнай блізарукасьцю. Як прыклад новага расейскага імпэрыялізму і чарговай зьнешнепалітычнай памылкі Масквы, аўтар прыводзіць абвінавачаньні Латвіі і Эстоніі ў нэафашызме. У выніку прэзыдэнт ЗША Джордж Буш па дарозе ў Маскву на сьвяткаваньне дня перамогі 9 траўня спыніцца ў Латвіі і правядзе сустрэчы з усімі трыма прыбалтыйскімі прэзыдэнтамі.

Паколькі ўнутраная і зьнешняя палітыка Пуціна у апошнія гады значна пашкодзіла яго імідж на Захадзе, дык на думку Рычарда Крыкаса, якраз сустракаючыся ў наступным месяцы ў Маскве з заходнімі лідэрамі, Пуцін мае шанец істотна палепшыць свой вобраз з дапамогай сьмелай ініцыятывы – а менавіта, дапамагчы ўрэгуляваць беларускае пытаньне.

На думку літоўскага журналіста, прыпушчэньне, што Пуцін пачне перамовы са сваімі заходнімі калегамі аб мірным адхіленьні Лукашэнкі ад улады, і для заходніх, і для расейскіх аналітыкаў выглядае наіўным. Гэтаму ёсьць дзьве прычыны. Па-першае, у адрозьненьне ад былых рэжымаў у Грузіі і Украіне, Лукашэнка значна мацней трымаецца пры ўладзе, падрыхтаваў дзеяздольныя ўзброеныя сілы для падаўленьня хваляваньняў, а беларуская апазыцыя слабая і абяскроўленая эміграцыяй, запалохваньнем, судамі і пасадкамі лідэраў у турму. Па-другое, Лукашэнка – самы блізкі саюзьнік Расеі, і з-за няўдачаў у іншых былых савецкіх рэспубліках, Пуцін можа пайсьці на аб'яднаньне зь Беларусяй. І гэта, паводле Рычарда Крыкаса, было б фатальнай памылкай і разыходзілася б з нацыянальнымі інтарэсамі Расеі.

Пуцін хоча аднавіць вядучую ролю сваёй краіны ў сьвеце, але дэмаграфічныя, эканамічныя, палітычныя і сацыяльныя праблемы Расеі могуць быць вырашаныя толькі з дапамогай заходніх дэмакратычных дзяржаваў. Толькі Захад можа дапамагчы Расеі нармальна эксплюатаваць яе прыродныя багацьці ў Сыбіры.

Лукашэнка можа пратрывацца яшчэ нейкі час, – піша Рычард Крыкас, – але дні яго ўжо палічаныя. Калі ж Пуцін пойдзе на саюз зь Беларусьсю, ён ня знойдзе новых сяброў ні ў Беларусі, ні на Захадзе. Наадварот, такі крок здольны павялічыць антырасейскія настроі і ў Беларусі, і на Захадзе, і паўсюль на абшары былога СССР. Да таго ж, няма пэўнасьці, што менская эліта гарой стаіць за Лукашэнку, і што пры першым зручным выпадку яна і сілавыя структуры не пяройдуць на бок супернікаў Лукашэнкі. Няма сумневу, што многія зь беларускага палітычнага клясу шукаюць спосаб парваць з Лукашэнкам.

У такой сытуацыі, паводле артыкулу літоўскага аглядальніка у газэце "Moscow Times", Пуцін і заходнія лідэры маглі б даць ім такую магчымасьць, пагадзіўшыся на наступныя ўмовы. Папершае, Лукашэнка пакінуў бы сваю пасаду, атрымаўшы гарантыі, што яго ня будуць судзіць за мінулыя правіны. Беларускі лідэр мог бы зрабіць гэта, калі б Расея падтрымала заклікі захаду да яго пакінуць сваю пасаду. Перад саюзам Расеі і Захаду ў Лукашэнкі не засталося б аргумэнтаў. Па-другое, абмежаваньні на свабоду прэсы ў Беларусі былі б зьнятыя. Па-трэцяе, наглядальнікі Эўрапейскага Зьвязу маглі б распачаць працэс, які гарантаваў бы правядзеньне да канца 2005 году парлямэнцкіх выбараў у Беларусі.

Вядома, праціўнікі кампрамісу ў Маскве выступяць супраць такога варыянту разьвіцьця падзеяў. Аднак у Пуціна дастаткова ўлады і аўтарытэту, каб нэўтралізаваць унутраных крытыкаў. І калі Пуцін і яго калегі на Захадзе маюць адвагу і мудрасьць, каб зрабіць такі сьмелы крок у наступным месяцы, дык далейшага пагаршэньня расейска-заходніх адносінаў удалося б пазьбегнуць. Пуцін, вядома, павінен гарантаваць дэмакратыю і ў сваёй краіне, але вырашэньне беларускага пытаньня магло б заахвоціць эўрапейцаў і амэрыканцаў да новых інвэстыцыяў у Расеі. Калі гэтага не адбудзецца, – заканчвае свой артыкул у "Moscow Times" літоўскі журналіст Рычард Крыкас, – дык 9 траўня посьпех Пуціна выглядае праблематычным.

Гэта быў кароткі зьмест артыкулу міжнароднага аглядальніка літоўскай газэты "Lietuvos Rytas" у расейскім тыднёвіку "Moscow Times".

## ПЕРАМОГА АКАДЭМІКАЎ: ІХ БУДУЦЬ АБІРАЦЬ ПАРАНЕЙШАМУ ТАЕМНЫМ ГАЛАСАВАНЬНЕМ

**Агульны сход Нацыянальнай Акадэміі навук не зацьвердзіў у новым статуце большасьці палажэньняў, супраць якіх выступіла група акадэмікаў. Навукоўцы называюць гэта актам непадпарадкаваньня і прыкладам у справе змаганьня за акадэмічныя правы і свабоды, а таксама за агульначалавечыя каштоўнасьці.**

Прапанова, якая выклікала найбольшы пратэст навукоўцаў, — пра адкрытае галасаваньне пры абраньні акадэмікаў і член-карэспандэнтаў на агульным сходзе — была адхіленая. Вось як вынік сходу пракамэнтаваў колішні кіраўнік Нацыянальнай Акадэміі навук Аляксандар Вайтовіч:

(Вайтовіч:) "Вынік сходу задавальняе: супраць чаго мы былі — нічога ж не прайшло. Гэта першае, а другое — мне вельмі шкада, што шмат часу акадэмія марнуе. Ну, каму патрэбныя былі гэтыя зьмены? Шмат, вельмі шмат больш важных пытаньняў ёсьць, а мы марнуем свой час і нэрвы на гэта".

Аляксандар Вайтовіч быў адным зь сямідзесяці акадэмікаў і член-карэспандэнтаў, якія падпісалі ліст пратэсту на адрас Аляксандра Лукашэнкі.

У сваім звароце навукоўцы выказвалі нязгоду з прапанаваным плянам зьменаў у статут акадэміі. А такія прапановы, як права пазбаўляць акадэмікаў навуковых званьняў, забараняць ім займацца палітыкай і грамадзкай дзейнасьцю не ўвайшлі нават у праект прапановаў.

Акадэмік Іван Нікітчанка назваў гэта перамогай акадэмічнай супольнасьці ў справе змаганьня з адміністрацыйным ціскам.

(Нікітчанка:) "Акадэміяй камандаваць, як хочуць, яны ня будуць. І прызначаць Лукашэнка нам нікога ня будзе. Гэта прыклад. Людзям усім так трэба паступаць, каб па сумленьні, а не па загадзе".

# ЭЛИТА ГОТОВА ГОЛОСОВАТЬ ЗА АЛЬТЕРНАТИВНЫХ КАНДИДАТОВ

## Но пока не верит в их победу на президентских выборах

В ходе недавнего национального опроса мы выяснили, что среди всех избирателей позиции действующего главы государства применительно к будущим президентским выборам остаются достаточно прочными. Напомним, что почти 46.4 % опрошенных заявили о готовности поддержать его на новых выборах, если голосование будет проводиться завтра; он со значительным отрывом опережает любого оппозиционного кандидата в гипотетической ситуации второго тура; у него самый низкий отрицательный рейтинг, а также более 70% респондентов уверены, что именно он выиграет следующие выборы. При этом отношение рядовых белорусов к оппонентам А. Лукашенко было весьма сдержанным. В отличие от всех избирателей, среди элиты наблюдается иная картина (табл. 1).

Таблица 1. Распределение ответов на вопрос "За кого из потенциальных кандидатов в президенты Беларуси Вы бы проголосовали, а за кого определенно не стали бы голосовать?", %*

| Вариант ответа | Все опрошенные | | | Работники госсектора | | | Работники негоссектора | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | За | Против | ЗО/НО | За | Против | ЗО/НО | За | Против | ЗО/НО |
| В. Парфенович | 53 | 15 | 32 | 63 | 13 | 24 | 43 | 17 | 40 |
| А. Козулин | 50 | 13 | 37 | 67 | 7 | 26 | 33 | 20 | 47 |
| А. Войтович | 45 | 20 | 35 | 47 | 13 | 40 | 43 | 27 | 30 |
| В. Колос | 43 | 15 | 42 | 50 | 7 | 43 | 37 | 23 | 40 |
| А. Лебедько | 37 | 20 | 43 | 23 | 23 | 54 | 50 | 17 | 33 |
| А. Милинкевич | 28 | 18 | 54 | 17 | 17 | 66 | 40 | 20 | 40 |
| Н. Машерова | 27 | 32 | 41 | 30 | 23 | 47 | 23 | 40 | 37 |
| В. Леонов | 22 | 27 | 51 | 20 | 23 | 57 | 23 | 30 | 47 |
| В. Фролов | 18 | 28 | 54 | 7 | 30 | 63 | 30 | 27 | 43 |
| С. Калякин | 17 | 45 | 38 | 10 | 47 | 43 | 23 | 43 | 34 |
| П. Кравченко | 17 | 40 | 43 | 23 | 30 | 47 | 10 | 50 | 40 |
| А. Ярошук | 15 | 22 | 63 | 10 | 17 | 73 | 20 | 27 | 53 |
| А. Климов | 13 | 42 | 45 | 10 | 40 | 50 | 17 | 43 | 40 |
| З. Позняк | 13 | 55 | 32 | 10 | 63 | 27 | 17 | 47 | 36 |
| Н. Статкевич | 5 | 38 | 57 | 7 | 27 | 66 | 3 | 50 | 47 |
| С. Гайдукевич | 2 | 80 | 18 | 3 | 73 | 24 | – | 87 | 13 |
| А. Лукашенко | 2 | 88 | 10 | 3 | 87 | 10 | – | 90 | 10 |

** Эта таблица читается по горизонтали.*

Во-первых, у представителей элиты А. Лукашенко получил самый высокий отрицательный рейтинг, а также самый низкий положительный. Во-вторых, лидеры и эксперты смогли ясно обозначить своих фаворитов – В. Парфеновича и А. Козулина. В-третьих, эти фавориты, а также следующие за ними А. Войтович и В. Колос, не принадлежат к так называемой традиционной или партийной оппозиции. Ее лидеры, А. Лебедько, С. Калякин, Н. Статкевич уступили первой "четверке", прежде всего, за счет невысоких показателей среди работников госсектора, на первое место поставивших А. Козулина (он получил и самый низкий отрицательный рейтинг).

Бывший ректор БГУ уверенно лидирует и в списке тех, кто, по мнению элиты, может успешно конкурировать с А. Лукашенко на следующих президентских выборах (табл. 2).

**Таблица 2. Распределение ответов на вопрос "А кто из этих политиков, по Вашему мнению, сможет успешно конкурировать с А. Лукашенко на следующих президентских выборах?", %** *(открытый вопрос, возможно более одного ответа)*

| Вариант ответа | Все опрошенные | Работники госсектора | Работники негосcектора |
|---|---|---|---|
| А. Козулин | 37 | 33 | 40 |
| В. Парфенович | 22 | 27 | 17 |
| Н. Машерова | 17 | 13 | 20 |
| А. Войтович | 12 | 7 | 17 |
| А. Лебедько | 10 | – | 20 |
| В. Леонов | 10 | 7 | 13 |
| А. Милинкевич | 8 | – | 17 |
| С. Калякин | 5 | – | 10 |
| А. Климов | 5 | 3 | 7 |
| В. Фролов | 5 | – | 10 |
| В. Колос | 2 | 3 | – |
| М. Маринич | 2 | 3 | – |
| З. Позняк | 2 | – | 3 |
| А. Ярошук | 2 | – | 3 |
| Никто | 27 | 43 | 10 |

Причем, наиболее высоко оценили его шансы как раз представители негосударственного сектора, которые сами за него не очень-то настроены голосовать, но, несмотря на это, признают его потенциал. Таким образом, что предположения о том, что А. Козулин имеет прочные позиции среди элиты, действительно, нечто большее, чем просто предположения. Однако шансы на победу на выборах всех без исключения конкурентов действующего президента элита, как, впрочем, и все избиратели, оценила невысоко (табл. 3).

**РОО "НИСЭПИ"**

# БЕЛАРУСЬ ДЕЛИТСЯ НА ФЕОДАЛЬНЫЕ КНЯЖЕСТВА

**Чиновники райисполкомов в ряде областей Беларуси в очередной раз выступили против какой-никакой рыночной экономики и честной конкуренции. Видимо, испугавшись обещанной Александром Лукашенко уголовной ответственности за невыполнение плановых показателей, «вертикальщики» настоятельно рекомендовали директорам государственных магазинов закупать продукты только местного производства.**

В результате жители многих районов, например, в Витебской и Могилевской областях не обнаружили в продаже импортных сигарет, пива, масла и даже молока Брестского молочного комбината, который представляет торговую марку «Савушкин продукт».

В одних магазинах продавцы честно признались покупателям, что во всем виноват исполком, в других — народу объявляли, что будто бы по новому указу президента каждый белорусский регион будет кушать только свои продукты.

Подобный протекционизм чиновники оправдывают высокими целями. Мол, если все дружно начнут пить паршивенькое пиво местного пивзавода, то он станет рентабельным и начнет производить нормальное пиво.

Ограничения на продажу российских товаров еще можно объяснить политикой импортозамещения, но как быть с дискриминацией в отношении продуктов, выпускаемых в Беларуси, но в других регионах?

По мнению экономиста **Леонида Заико**, сейчас в нашей стране очень сложно создать нормальную конкурентную среду:

— *Государственные чиновники головой отвечают за показатели развития в своих районах. Разрешать ввозить продукты из других областей и районов им не выгодно. Вот они и поят, кормят народ молочными и мясными изделиями зачастую некачественного местного производства. Факты применения в экономике административного рычага говорят о том, что в Беларуси существуют удельные феодальные княжества отдельных чиновников, в которых они внедряют собственную модель экономики. Проблемы здесь нет — есть белорусская глупость и страх отдельных начальников оказаться заведующим баней.*

# ОДНИ ВЫБОРЫ КОЗУЛИН УЖЕ ВЫИГРАЛ

**Трансформационные процессы в стане белорусских социал-демократов ранее ассоциировались исключительно с внутрипартийными скандалами, часто приводившими к расколам и смене руководства. В политической тусовке даже стала ходить шутка, что социал-демократы объединяются делением. Вот и последняя объединительная инициатива и сплотила соратников, и увеличила число обиженных.**

Речь идет о наконец-то состоявшемся объединительном съезде Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) и Белорусской социал-демократической Грамады. Слияние двух партий должно было пройти еще 19 марта, но тогда их общий съезд был сорван. Без форс-мажорных обстоятельств не обошлась и новая попытка объединения. 10 апреля участники съезда собрались у Дома культуры в поселке Сенница под Минском, но повторилась старая история — в здание партийцев не пустили. Объединительный съезд пришлось проводить на свежем воздухе.

Несколькими часами ранее в таком же походном варианте провела свой внеочередной съезд и Белорусская социал-демократическая Грамада, делегаты которого приняли решение о самоликвидации партии и вступлении ее членов в ряды БСДП (НГ). Кроме того, перед самоликвидацией партийцы отстранили от должности председателя партии Станислава Шушкевича, который, впрочем, сам съезд и принятое на нем решение о самороспуске партии не признал.

Гвоздем программы стали выборы лидера единой партии, получившей название Белорусская социал-демократическая партия «Грамада». На эту должность безальтернативно баллотировался бывший ректор БГУ Александр Козулин. В результате за него отдали свои голоса 143 из 155 делегатов, принявших участие в голосовании.

После своего избрания **Александр Козулин** заявил, что социал-демократические идеи очень близки белорусскому народу. По его мнению, прошедший съезд показал, что *«против единства людей никто ничего не сможет сделать»*.

*«Я твердо намерен менять ситуацию в Беларуси в лучшую сторону»*, — сказал Козулин. Для этого, по его словам, необходимо создать мощное народное движение. И первый шаг в этом направлении уже сделан, полагает первый председатель БСДП «Грамада». Напомним, что Александр Козулин возглавляет координационную группу по созданию общественного движения «Воля народа».

*«Козулин — это приоритетная фигура, которая способна втянуть в процесс людей из властной системы*, — говорит бывший председатель БСДП (НГ), а ныне рядовой социал-демократ **Анатолий Левкович**. — *И я надеюсь, что принятые 10 апреля решения придадут динамику процессу вовлечения в наши ряды таких людей»*.

Как считает Анатолий Левкович, новый лидер, появившийся не из партийных структур, социал-демократам был очень необходим. Тем более перед такой большой политической кампанией, как президентские выборы. *«Мы смогли продемонстрировать главный, как нам кажется, принцип демократии — смену политического руководства. Это то, чего сейчас не хватает нашему демократическому движению»*, — говорит Анатолий Левкович.

Президентский потенциал нового лидера социал-демократов Александра Козулина аналитики оценивают достаточно высоко. На его стороне безусловный фактор политической свежести и отсутсвие отрицательного рейтинга, присущего большинству лидеров демократических сил. И даже само объединение социал-демократов «под Козулина» многие склонны называть спецпроектом с прицелом именно на президентские выборы.

*«Кандидатура Козулина как одного из новых оппозиционных лидеров достаточно перспективна*, — считает эксперт аналитического центра «Стратегия» **Валерий Карбалевич**. — *Хотя последние социологические опросы показывают, что связанные с появлением Козулина ожидания пока не оправдываются»*.

По мнению Валерия Карбалевича, должность председателя партии — не большая прибавка к политическому имиджу с точки зрения симпатий электората. *«Что же касается президентских амбиций Козулина, то его приход на пост лидера новой социал-демократической партии — безусловно, плюс для него. Козулин получил реально работающую структуру, что будет очень важно во время избирательной кампании для сбора подписей, необходимых для получения статуса кандидата в президенты»*, — считает эксперт *«Белорусских новостей»*.

# ЕЎРОПУ БУДУЕМ РАЗАМ — ТУТ!

***Набліжаецца першая гадавіна гістарычнага прыняцця ў еўрапейскую сям'ю 10 краін, якія давялі колькасць сябраў Еўрапейскай супольнасці да 25. Крочыць у Еўропу вырашылі таксама на Украіне і Малдове, а з 1.01. 2007 года ЕЗ далучацца Баўгарыя і Румынія. Калісьці да гэтага дойдзе і Беларусь. А рэдакцыя "Гасцінца" працягвае друкаваць матэрыялы, звязаныя з гісторыяй еўрапейскай інтэграцыі.***

## 2. СІМВАЛЫ ЕЎРАПЕЙСКАГА САЮЗА



**Сцяг Еўропы –** гэта кола дванаццаці пяціканцовых зорак на блакітным фоне.

Праект сцяга, аўтарства Сальвадора дэ Мадарага і Ройа, іспанскага пісьменніка і дыпламата, разам з французскім графікам Арсэнам Гэйтсам, паўстаў у 1955 годзе.

Конкурс на сцяг Еўропы праводзіла Рада Еўропы. Папярэдне журы прыняла праект з пятнаццаццю зоркамі, сімвалізуючымі сталіцы свабодных дзяржаў Еўропы. Апошнюю версію – з дванаццаццю жоўтымі зоркамі, размешчанымі па колу на блакітным фоне – прыняў Сход Дарадцаў Рады Еўропы.

Дванаццаць зорак сімвалізуюць дасканаласць і гармонію, гадзіны дня і месяцы, знакі задыяку і лік апосталаў, і акрамя гэтага шмат іншых значэнняў. Зоркі таксама можна трактаваць як сімвал ідэалу, шчасця і бесьмяротнасці.

Існуе таксама неафіцыйная версія трактавання значэння еўрапейскага сцяга. Падобна на тое, што перад смерцю Арсэн Гэйтс прызнаўся, што працуючы над праектам сцяга, ён звярнуўся да хрысціянскай сімволікі, а асабліва да культу Божай Маці. 12 зорак паходзяць з яе кароны, блакітны колер сімвалізуе нявіннасць і цнатлівасць Мадонны.

Гісторыкі звяртаюць увагу яшчэ на адну асаблівасць – размяшчэньне зорак на сцягу падобна на ўзор кароны з фрэскі сямнаццатага стагоддзя, якая знаходзіцца ў адным з рымскіх палацаў. Менавіта ў гэтым месцы была падпісана Канвенцыя Абароны Праў Чалавека.

Ужытыя ў праекце сцягу Еўропы сімвалы прымаюць таксама і мусульмане (нягледзячы на прывязку да хрысціянства). Сімволіка зоркі і блакіту, як і постаць Марыі, знаходзіць сваё месца ў Ісламе і культуры таго цывілізацыйнага краю.

Сцяг Еўропы як сімвал Зямлі і яе жыхароў быў узняты на Месяцы падчас палёту Апалона16 (21 красавіка 1972 г).

**Гімн Еўрапейскага Саюза** складаецца з "Оды радасці" Фрыдэрыка Шылера і пачатку IV часткі IX сімфоніі рэ-мінор Людвіка ван Бетховена. Спачатку гэта быў гімн Рады Еўропы (з 1972), а з 1986 з'яўляецца таксама гімнам Еўрапейскіх Супольнасцяў.

Аранжыроўку фрагмента сімфоніі Людвіка ван Бетховена зрабіў знакаміты дырыжор Герберт фон Караян, які захаваў аўтарскія правы на працу.

Літаратурныя крытыкі сцвярджаюць, што Фрыдэрык Шылер напісаў оду падчас свайго гарачага раману з замужняй жанчынай.

**Знак еўра –** прывязаны да грэцкай літары "эпсілон" і да першай літары назвы кантыненту. Дзве паралельныя лініі, праходзячыя праз літару, азначаюць стабільнасць еўра.

Аўтарства гэтага сімвала прыпісваецца вышэйшаму кіраўніку Еўрапейскай Камісіі Жану-Пьеру Малівору, хоць гэта афіцыйна і не пацверджана.

**Банкноты еўра –** аўтарам праекту з'яўляецца Роберт Каліна з Аўстрыі, які ў 1996 г выйграў конкурс на графічную распрацоўку банкнот. Каліна звярнуўся да гісторыі архітэктуры і выкарыстаў ідэальныя ўзоры архітэктурных стыляў. На банкноце 5 еўра антычны стыль, 10 – раманскі, 20 – гатычны, 50 – рэнесанс, 100 – барока і ракако, 200 – XIX ст., 500 – XX ст.

**Манеты еўра –** маюць супольны аверс, народны рэверс. Адзіныя аверсы спраектаваў Люк Луікс з Бельгіі. На іх размешчаны контуры Еўропы. Затое рэверсы ўтрымліваюць народныя сімвалы, сілуэты народных герояў і каранаваных асобаў, прыклады народнага мастацтва, флоры і фауны.

**Дзень Еўропы –** адзначаецца 5 мая ў дзень утварэння Рады Еўропы (5 мая 1949 г.).

**Дзень Еўрапейскага Саюза –** адзначаецца 9 мая на гадавіну дэкларацыі міністра замежных справаў Францыі, Роберта Шумана, аб неабходнасці стварэння першай Еўрапейскай Супольнасці.



**«ГАСЦІНЕЦ»**
**КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, вышліце па адрасу: 211573, г. Гарадок, Гагарына д. 30Б, кв.16, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш 15 слоў) бясплатна.

*Тэкст*________________________

**Імя і прозвішча**____________________

**Адрас, тэлефон**____________________


**Заснавальнік і рэдактар:** ***Леанід Гаравы.***
*Адрас:* 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына , 30Б-16.
*Тэл.* 8-02139-4-53-33. *E-mail*: haravy@tut.by

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 290 асобнікаў